

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 18(334) | 15-31 СНЕЖНЯ 1997 г.

## Да людзей Зямлі Беларускай

*З нагоды Свята нараджэння сына Божага Езуса Хрыстуса, шчырыя зычэнні*




*Ад усяго сэрца жадаем Вам, дарагія Браты і Сёстры, каб маленькі Езус нарадзіўся ў душы кожнага грамадзяніна нашай краіны і прынёс у Вашыя сэрцы надзею ў лепшую будучыню, сапраўдную Ісціну і Міласць Божую. Каб умацаваў ён Веру нашую ў тое, што знойдзем мы сэнс жыцця свайго і пойдзем дарогай Розуму і Праўды. Каб благаславіў усіх нас на шляху Новага 1998 года.*

***Ксёндз Юзаф, парафія Святой Сям'і г. Ліды.***

## Каляда

Пайшла каляда калядуючы,
Эй, каляда!
А за ёю дзеўкі шчадруючы.
Эй, каляда!
Пайшла каляда ў адну хату,
Эй, каляда!
А ў гэтай хаце куццю таўкуць.
Эй, каляда!
Пайшла каляда ў другую хату.
Эй, каляда!
А ў гэтай хаце серабро звініць.
Эй, каляда!
Пайшла каляда ў трэцюю хату.
Эй каляда!
А ў трэцяй хаце сала шыпіць.
Эй, каляда!
Пайшла каляда ў чацвёртую хату.
Эй, каляда!
А ў гэтай хаце сала шыпіць.
Эй каляда"
Пайшла каляда ў пятую хату.
Эй каляда"
А ў пятай хаце золата блішчыць.
Эй, каляда!
Пайшла каляда ў шостую хату.
Эй, каляда!
А ў шостай хаце каўбасу пякуць.
Эй, каляда!
Каўбасу пякуць ды і нам дадуць.
Эй, каляда!
Хоць па маленечкаму кусочку.
Эй, каляда!
Каб любілі хлопцы вашу дочку.
Эй, каляда!

### Гарадзенская абласная канферэнцыя БНФ

7 снежня ў Горадні прайшла Гарадзенская абласная канферэнцыя БНФ "Адраджэньне". На канферэнцыі прысутнічалі дэлегацыі ад 14 раённых і гарадскіх арганізацый. Канферэнцыя абмеркавала сітуацыю ў краіне і тактыку дзеяння Фронту. Канферэнцыя абрала трох сяброў Сойму БНФ ад Гарадзенскай вобласці: Міколу Маркевіча — галоўнага рэдактара газеты "Пагоня", Міколу Баўсюка ад Гарадзенскага раёна і Алеся Саміца ад Карэліч.

Канферэнцыя зацвердзіла склад абласной рады. Рада ў сваю чаргу абрала старшыню, пяць намеснікаў, скарбніка і сакратара. Старшынёй Гарадзенскай абласной арганізацыі БНФ "Адраджэньне" застаўся Мікола Баўсюк.

## Рэспубліканская рада ТБМ і ТБШ

28 лістапада ў Менску прайшло сумеснае паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ і ТБШ. Тэма паседжання: "Беларускамоўнае навучанне: стан, праблемы, шляхі вырашэння".

На паседжанні былі абмеркаваныя пытанні:

— Сучасны стан беларускамоўнага навучання і выхавання ў Беларусі (дзіцячы сад, школа, ВНУ).

— "Выбар мовы навучання" і "роўны статус рускай і беларускай моваў". Як гэта разумець?

— Фактары прэстыжнасці беларускамоўнага навучання.

— Шляхі вырашэння праблем беларускамоўнага навучання.

Асноўны даклад на Радзе Валерыя Палсцюка друкуецца на трэцяй старонцы.

### ПАСТАНОВА Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны і Рэспубліканскай Рады ТБШ ад 28 лістапада 1997 года

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад В. Палсцюка "Беларускамоўнае навучанне: стан, праблемы", Рэспубліканская Рада ТБМ і Рэспубліканская Рада ТБШ з трывогай адзначаюць, што разбурэнне і скарачэнне беларускамоўнай адукацыі ў нашай краіне працягваецца. Многія афіцыйныя асобы адкрыта ігнаруюць факты грубага парушэння Канстытуцыйнага права грамадзян на навучанне на роднай мове, мэтанакіраванага звужэння ўжывання беларускай мовы ў грамадскім жыцці. Скажаецца сапраўдная інфармацыя пра стан беларускамоўнай адукацыі ў школах Беларусі, адсутнічае магчымасць атрымання вышэйшай адукацыі па-беларуску. У сувязі з гэтым Рады ТБМ і ТБШ пастанаўляюць:

**1.** Запатрабаваць ад Міністэрства адукацыі, іншых дзяржаўных органаў і ўстаноў Рэспублікі Беларусь строгага выканання палажэнняў Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным статусе беларускай мовы і яе паўнапраўным бытаванні ва ўсіх галінах дзяржаўнай дзейнасці.

**2.** Мясцовым суполкам ТБМ і ТБШ у першым квартале 1998 года ўстанавіць цесныя кантакты з органамі адукацыі і выканаўчай улады з мэтай спынення пераводу беларускамоўных класаў на рускую мову навучання, захавання і пашырэння сеткі беларускамоўных школ у гарадах і раёнах.

**3.** Актывізаваць працу па ўключэнні бацькоў, што выбіраюць для сваіх дзяцей беларускамоўнае навучанне, у суполкі ТБМ і ТБШ.

Абласным і раённым Радам ТБМ арганізаваць кансультацыйныя цэнтры для бацькоў беларускамоўных навучэнцаў.

**4.** Сакратарыяту ТБМ да 1 мая 1998 года прааналізаваць становішча з рэалізацыяй дзяржаўнымі ведамствамі "Закона аб мовах", "Закона аб адукацыі".

**5.** Правесці ў другім квартале 1998 года пашыранае пасяджэнне сакратарыятаў ТБМ і ТБШ з удзелам грамадскасці і прадстаўнікоў міністэрства адукацыі, Мінгарвыканкама, адміністрацыі прэзідэнта, Кабінета міністраў па вырашэнні праблем беларускамоўнай адукацыі.

**6.** Звярнуцца ў Цэнтр метадычнай кнігі і падручнікаў з патрабаваннем рэалізцыі праграмы стварэння школьных падручнікаў беларускімі аўтарамі, ужывання тэрміналогіі ў адпаведнасці з распрацоўкамі Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі.

**7.** Абласным і раённым Радам ТБМ штогод 1 лістапада падаваць інфармацыю ў Рэспубліканскую штаб-кватэру аб стане беларускамоўнай адукацыі ў рэгіёнах.

**8.** Даручыць старшыні Рэспубліканскай Рады ТБМ Генадзю Бураўкіну і прэзідэнту ТБШ Генадзю Пятроўскаму звярнуцца да кіраўніцтва Беларускага радыё і тэлебачання з просьбай аб выступленні ў прамым эфіры для асвятлення праблем беларускамоўнай адукацыі.

**9.** Правесці наступнае сумеснае пасяджэнне Радаў ТБМ і ТБШ па праблемах беларускамоўнай вышэйшай адукацыі.

## Сойм БНФ

**13 снежня ў Менску прайшоў чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Сойм прыняў ухвалу у падтрымку газеты "Свабода", разгледзеў пытанні стратэгіі і тактыкі БНФ на зіму-вясну 1998 года.**

## Чым правініўся "Першацвет"?

*Бадай папулярнасцю. Апошнім часам вакол гэтага часопіса групавалася каля трохсот маладых аўтараў. І на вялікі жах для ўладаў гэта былі не БПСМаўцы, а нейкія там беларусы. Даваць грошы на нацыяналістычны часопіс? Ні ў якім разе. Яны ўсе там хочуць свабоды і рынку. Вось хай і будуць свабоднымі і рынкавымі.*

*17 лістапада 1997 года рэдакцыя часопіса "Першацвет" атрымала ліст з Дзяржкамдруку, дзе паведамляецца, што прынятае змеркаванне пра нямэтазгоднасць уключэння часопіса "Першацвет" у пералік перыядычных выданняў, што фінансуюцца праз Дзяржкамдрук у 1988 годзе".*

*Гэта называецца: "Бывай, "Першацвет", прынамсі, на некаторы час.*



ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДРУКУ | ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ПЕЧАТИ

220048, Мінск, праспект Машэрава, 11 ... (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35 | 220048, Минск, проспект Машерова, 11 ... (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

... журнала ...цвет"

Сообщаем, что на состоявшемся ... местителя Премьер-министра Республики ... целесообразности включения журнала "... ских изданий, финансируемых через Госком... периодиче-

Просим учесть вышеизложенную инф... подписки на 1998 г.

Первый заместитель председателя ... Привалов

## Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выказвае шчырую падзяку сябрам і прыхільнікам, што даслалі свае ахвяраванні на падтрымку арганізацыі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Выдавецтва "Беларусь" | 5 млн. | Дзятлаўская СШ Лунінецкага раёна | 1,5 млн. |
| НПП "Нілагаз" | 2,5 млн. | Вячаслаў Мацкевіч | 200 тыс. |
| Творчая майстэрня арх. Гаўрыкава А. С. | 500 тыс. | Гомель, Талуць С. Ф. | 150 тыс. |
| Уладзімір Голубеў | 80 тыс. | Іосіф Навумчык | 300 тыс. |
| Ж. В. Я. | 200 тыс. | Галіна Варатынская | 40 тыс. |
| Алег Яфрэмаў | 270 тыс. | Р. Бабаенка | 50 тыс. |
| Супрацоўнікі НДУГРУ | 120 тыс. | Л. Ляхоўская | 50 тыс. |
| В. М. Сяськова | 100 тыс. | М. Крывінак | 50 тыс. |
| С. Хансуцкая | 200 тыс. | А. Канапелька | 100 тыс. |
| В. В. Нікановіч | 250 тыс. | Юрась Корбан | 100 тыс. |
| Яўген Ігнатовіч | 100 тыс. | Л. Аляхновіч | 30 тыс. |
| Іван Сухоцкі | 100 тыс. | П. Іванчанка | 60 тыс. |
| Яўген Міцкевіч | 60 тыс. | А. Гаравы | 40 тыс. |
| Супрацоўнікі кафедры бел. мовы і літ. Бел. Унів. Культуры | 440 тыс. | Л. Лапаціна | 40 тыс. |
| Лета Усціновіч | 70 тыс. | Ю. Мароз | 20 тыс. |
| Галіна Камчук | 60 тыс. | Л. Сімананай | 20 тыс. |
| ПКФ "Універсал-Сервіс" | 2 млн. | С. Серабро | 10 тыс. |
| М. Н. Какарэка | 50 тыс. | І. Каліноўскі | 15 тыс. |
| Барыс Бароўскі | 100 тыс. | Г. Гарэлікава | 20 тыс. |
| Віцебская абласная Рада ТБМ | 1 млн. 155 тыс. | І. Качарагіна | 20 тыс. |
| Міхаіл Яўневіч і супрацоўнікі кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага пед. універсітэта | 1 млн. 650 тыс. | В. Кадушка | 100 тыс. |
| Рада ТБМ Ленінскага раёна г. Мінска | 400 тыс. | Сіўка | 50 тыс. |
| | | Валянцін Адлоў | 50 тыс. |
| | | Д. Жукоўскі, Гродна | 100 тыс. |
| | | Чалавек з Докшыц | 50 тыс. |
| | | Святар з Ліды | 180 тыс. |
| | | М. Вераціла, г.п. Краснасельскі | 200 тыс. |
| | | У. Раманцоў, г. Менск | 40 тыс. |

## Адчыніўся шапік ТБМ

Ужо некалькі тыдняў працуе ў Менску на вуліцы Леніна шапік Таварыства беларускай мовы.

Тут можна набыць практычна ўсе новыя беларускамоўныя выданні нашай краіны і беларускага замежжа, у тым ліку і газету "Наша слова", а таксама разнастайную нацыянальную сімволіку, творы мастацтва.

Працуе шапік з 9 да 21 гадзіны.

Каб лягчэй было знайсці, глядзіце схему.



# Сумныя справы

Наша раённая суполка ТБМ калісці была ў ліку лепшых. Актыўна працавалі першасныя суполкі — ладзіліся вечарыны, праводзіліся канцэрты, выступленні фальклёрных калектываў, сустрэчы з паэтамі і пісьменнікамі з Менску. Яны выклікалі зацікаўленасць жыхароў раёна, спрыялі адраджэнню беларускай мовы і культуры.

Аднак з часам гэтая праца пачала пакрыху затухаць. Некаторыя першасныя суполкі яшчэ трымаюцца. Але толькі на энтузіязме настаўнікаў беларускай мовы. Ды і праца ў іх праводзіцца толькі сярод вучняў. А некаторыя і зусім спынілі сваю працу.

Прычын тут, па маю думку, некалькі. Гэта і аслабленне сувязі з цэнтральнай радай ТБМ і яе ўплыву і дапамогі суполкам, і адносіны афіцыйных уладаў да ТБМ, і самі палітычныя абставіны ў краіне.

А вынік адзін. І пры гэтым адмоўны — у адзінай беларускамоўнай сярэдняй школе райцэнтра ў гэтым навучальным годзе няма ні аднаго беларускамоўнага першага класа. Гэта значыць, што праз 10 гадоў у райцэнтры не будзе ні адной беларускай школы. Гэты сумны факт — галоўная адзнака працы ТБМ у нашым раёне.

*І. Фурсэвіч, г. Докшыцы.*

# З вэлюмам на твары

**— Ці ведаеш, як маскалі называюць пыво?**

**— Як?**

**— "Пиво".**

**— Пазабіваў бы, — гаворыцца ў адным з украінскіх анекдотаў.**

**Амаль такая ж размова адбылася і ў нашым рабочым асяроддзі на Менскім аўтазаводзе. Адзін з рабочых, цікавячыся праграмай тэлебачання, знайшоў для сябе незразумелае беларускае слова "вэлюм", якое выклікала ў яго глыбокае абурэнне.**

**— Понапридумывают всяких слов, искажают язык.**

**Такія словы "барацьбітоў" за чысціню беларускай мовы можна пачуць даволі часта. Як правіла, яны мовай гэтай не карыстаюцца, але з'яўляецца нагода сярод недасведчаных грамадзян раз-другі пакрытыкаваць гэтых самых "бэнээфовцев", "тэбээмовцев" і усялякіх там "националистов", каторыя "придумывают", "вводят устаревшие слова".**

**Свядома ці падсвядома такія выказванні ёсць не што іншае як форма барацьбы супраць беларускай мовы, удушэння яе развіцця і авалодвання. Замест абуджэння народа, вяртання адной мовы спрабуюць уцягнуць у спрэчкі аб мэтазгоднасці выкарыстоўвання асобных словаў, правапісу і вымаўлення, пасеяць недавер у яе правільнасці. Гаварыў я "абуральніку" і аб тым, як узнікаюць словы, іх паходжанне, што словы, мова таксама, як і людзі падвяргаліся рэпрэсіям. Але больш мяне ўразіла, што ён не жадае пра гэта ведаць. Мае спецыяльна падабраныя артыкулы, даследванні моваведаў ён адхіліў з самай бруднай лаянкай. Дарэчы, мат у працоўным калектыве з'ява даволі распаўсюджаная. Цяжка сустрэць каго-небудзь, каб не мацюкаўся. Нездарма гаворыцца, што мова — асноўная частка культуры народа. Вось яна, культура! Многія людзі не разумеюць, што яны абкрадзеныя ў культуры, ва ўласнай роднай мове і працягваюць заставацца са своеасаблівым вэлюмам на твары. Спрыяюць гэтаму і дзеянні нашай улады, яе сродкі масавай інфармацыі.**

**Пра тое, што мова знішчаецца, не трэба далёка хадзіць за прыкладам. Такія выказванні простага рабочага — не навіна, карані ідуць ад самога Панцеляймона Кандратавіча, першага сакратара ЦК КП (б) Беларусі, з 30-х гадоў, дзе ён у адным з пісьмаў "бацьку" Сталіну абвінавачвае беларускіх нацыяналістаў у напрыдумванні шкодных словаў і прыводзіць іх цэлы стос. Новае сёння — гэта не прыкрыты, пячорны прыём ўдушэння развіцця, вяртання роднай мовы на раду (пэўна ўжо высілілася праімперская славянская палітыка, што не прыдумалі больш хітрэйшага) — ураўніванне рускай мовы ў правах з беларускай. Ці не здзек гэта над здаровым сэнсам і розумам. Раней у Заводскім раёне г. Менска дзе-нідзе з'ўлляіся шыльды, аб'явы па-беларуску. Шмат у якіх крамах, магазінах было аўдыё-візуальнае асяроддзе. Напрыклад, універмаг "Беларусь" поўнасцю адпавядаў сваёй назве. Зараз такога не скажаш (хоць ты адымі той ліст падзякі, якім кольвечы быў адзначаны яго дырэктар гарадской Радай ТБМ).**

**Зараз назіраецца замена шыльдаў на расейскую мову. Быў магазін "Мэбля", стаў — "Мебель", быў праспект "Партызанскі", стаў — "Партизанский" і г. д. Рада ТБМ правяла аналіз стану выкарыстоўвання беларускай мовы ў раёне і прыйшла да высновы, што яна поўнасцю і паступова выцясняецца з ужытку. Пра гэта быў накіраваны адпаведны ліст адміністрацыі раёна. І вось працытую вытрымку з адказу: "... пры ўзгадненні праектаў рэкламных установак, шыльдаў... архітэктурная служба раёна не перашкаджае... у свабодным выбары мовы... (згодна з арт. 4 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб рэкламе" і арт 12 Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь"). Вось вам і ўраўніванне моваў у правах.**

**Ведаючы, што ўсе газеты чытае прэзідэнт А. Лукашэнка, звяртаюся да яго: падумайце, што вы робіце, спыніцеся. Спыніцеся выкарыстоўваць людскую слабасць і недасведчасць у моўных пытаннях і перашкаджаць руху вяртання народу яго роднай мовы. Дапамажыце яму, скіньце вэлюм з яго твару.**

*Мікола ЛАВІЦКІ,*
*тэрміст тэрмагальванічнага цэха Менскага аўтазавода, старшыня рады ТБМ Заводскага р-на.*

# "І ў нас ёсць фальклёр...!"

Кожная краіна мае свае нацыянальныя колеры. Народы гэтых краін шануюць тыя колеры гэтаксама, як і нацыянальны герб ды сцяг. Колеры тыя не выдуманыя кімсці, а перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Неяк не гэтак даўно трапіўся мне на вочы цікавы артыкул, аўтар якога (на жаль не памятаю ягонага прозвішча) даследуе тэму, якога колеру павінна быць спартовае адзенне. З упэўненасцю, з якой цяжка не пагадзіцца, ён піша, што у адзенні павінны пераважаць менавіта нацыянальныя колеры. Цалкам з ім згодна. Але нашая краіна вельмі незвычайная на гэты конт. Якія колеры лічыць нашымі нацыянальнымі? Менавіта я лічу, што чырвоны ды белы. Але ж не ўсе гэтак лічаць. Тэма гэтая, відаць, цікавая не толькі для мяне, бо ледзь не кожны дзень даводзіцца з ёю сустракацца.

Я не вельмі люблю глядзець тэлевізар, шкадую часу. Гляджу, у асноўным, навіны ды і то не заўсёды, бо тыя самыя навіны можна і па радыё паслухаць (не па беларускім дзяржаўным). Беларускае тэлебачанне не гляджу навогул. Бо навошта ж нечарговы раз раздражняцца ды нервавацца! Але ж неяк у суботу хтосьці з маіх сямейнікаў уключыў "скрынку" ды пайшоў, пакінуўшы яе працаваць. Як потым высветлілася, яна працавала менавіта на беларускім канале. Я займалася сваімі хатнімі справамі і выпадкова, без усялякай увагі, глянула на экран. Як звычайна, нічога новага. Паказвалі нейкае прадпрыемства. Свежапрыбраныя памяшканні, прычасаныя ды напарфумаваныя супрацоўніцы з загадзя вывучанымі напамяць прамовамі. Потым прадэманстравалі выступленне музычнага гурта, які з натхненнем выканаў песеньку з рэпертуару расейскай папсы. Я ўжо намерылася выключыць тэлевізар, як раптам пачула: у нас і фальклёр ёсць! Я вельмі зацікавілася, нават бульбу кінула абіраць, уладкавалася на канапе, уважліва слухаю. І што ж я ўбачыла ды пачула?! Выйшла на сцэну купка жанчын у сарафанах (?), у якіх пераважаў блакітны колер. На галовах нешта кшталту расейскіх "какошнікаў". І заспявалі яны штосьці з рэпертуару "Залатога кальца". Зразумела, на расейскай мове. Я здзівілася: напэўна, расейскі канал гляджу. Не, унізе экрану літары БТ бачныя. Гляджу у праграму. "Рэгіён. Перадача з Гомелю".

Дык гэта, значыць, быў гомельскі фальклёр! Дзіўна, а я дагэтуль была ўпэўнена, што Гомель знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, і фальклёр, тамака, прынамсі, паляшуцкі. У строях палешукоў, як і іншых беларусаў, нешта раней я не заўважала сіняга ці блакітнага колеру. У вышэйшага нашага кіраўніцтва не ўсё ў парадку з так званай інтэграцыяй двух народаў. Народ, як бачым, мае большы поспех.

Бабуля мая ў свой час ткала дзяругі, дзе пераважаў чорны ды чырвоны колер. Белага было мала — каб менш пэцкалася. Дзе-нідзе сустракаўся бурнаты. Дык, можа, лепей з Нямеччынай інтэгравацца? Яна ж усё багацей.

Бываюць жа усялякія недарэчнасці з гэтымі колерамі. Але, я не маю сумневу, што гэтыя недарэчнасці заўважаюць хіба што адзінкі. Астатнім усё роўна. І гэтаму ў найвялікшай ступені спрыяюць нашыя сродкі масавай інфармацыі. Масы праглынуць усё: і праўду, і хлусню. Сустракаюцца ў нас журналістыя, якім толькі таго і трэба, каб тыя масы не задумваліся ні аб чым. Але ж, на вялікі жаль дзеля іх, сустракаюцца дзе-нідзе такія людзі, якія маюць звычку сумнявацца ў напісаным, ды ўбачаным, ды пачутым.

*Лілея САЗАНАВЕЦ, г. Ліда.*

# Выданне ТБМ

У рамках выдавецкай дзейнасці ТБМ выйшла кніга-альбом з мастацкага збору Анатоля Белага "Любіць радзіму — шанаваць родную мову".

Кніга ўтрымоўвае 151 рэпрадукцыю твораў жывапісу, графікі, прыкладнога мастацтва, а таксама плакатаў, кніжных знакаў, так ці інакш звязаных з праблемамі беларускай мовы. Тут партрэты выдатных дзеячоў беларускага нацыянальнага руху, ілюстрацыі да кнігаў, экслібрысы, тэматычныя плакаты і дзіцячыя малюнкі такіх майстроў, як Анатоль Крывенка, Міхась і Уладзімір Басалыгі, Сямён Герус, Мікола Купава, Яўген Ціхановіч, Уладзімір Крукоўскі, Мікола Стома, Віктар Асташонак і шмат іншых. Кнігу адчыняюць прадмовы Анатоля Белага і доктара гістарычных навук, прафесара Леаніда Лыча.




# Розумамі валодае мафія



*Святлана Прохарава*

Спачатку было слова. Потым узніклі навукоўцы, якія ўсё пра слова ведаюць. Але, як высветлілася, неслоўахвочыя. Святлана Прохарава — доктар філалагічных навук, прафесар БДУ, на інтрэв'ю не згаджалася. Часткова таму, што, на думку Святланы Міхайлаўны, навука пра мову — лінгвістыка — веды для пасвядчаных, часткова таму, што ёй, чыё імя Кембрыджскім біяграфічным цэнтрам уключана ў інтэрнацыянальны зборнік "Хто ёсць хто сярод інтэлектуалаў", намінавана ў зборнік "2000 найбольш выдатных людзей XX стагоддзя", было сорамна расказваць пра сённяшні стан навукі і пра нездаровую сітуацыю ўнутры навуковых колаў.

Зрэшты, бядотны стан айчыннай ітнэлектуальнай эліты агульнавядомы. Затое пра існаванне "лінгвістычнай мафіі", разгаварыўшы-такі Святлану Міхайлаўну, асабіста я пачула ўпершыню, нават неяк не паверылася.

**— Святлала Міхайлаўна, мафія абазначае грошы. Адкуль узяцца мафіі, калі навуковец у нас бессярэбранік?**

— Безумоўна, гаворачы пра мафію лінгвістычную, падразумяваем не грошы — уладу. Уладу над розумамі. У Беларусі да гэтага часу, у адрозненні ад бліжэйшых суседзяў Расеі і Украіны, не існуе здаровай канкурэнцыі паміж рознымі лінгвістычнымі школамі. Нам вядома, чым пагражае ідэалагічная экспансія. Мова — гэта і філасофія, і культура, і ідэалогія. Не выпадкова жыццё буйных навукоўцаў заканчваецца калі не трагічна, то ў няволі. Гэтыя людзі ведалі, што грамадства не можа гарманічна развівацца, калі народ думае зададзенымі "адзіна правільнымі" катэгорыямі. Усе ідэалагічныя праграмы ўводзяцца, як ні банальна, з дапамогаю слова. Гэта не маё адкрыццё. Гэта АРУЭЛ. Ёсць заканамернасць: цывілізаваная краіна — цывілізаваная лінгвістыка.

**— Але, здаецца, зараз ужо адкрытыя забароны на "няўгодныя думкі" немагчымы. Наўрад ці магчымы пераслед "за "ерась"?**

— Зараз, безумоўна, вальней. У 1984 годзе быццам бы душылі падушкаю. У барацьбе са словам зброя — маўчанне. Дакладней — замоўчванне. Выданне працаў навукоўцаў, друк — у руках невялікай колькасці людзей, якія, сыходзячы з уласных лінгвістычных арыентацый, вырашаюць, быць "слову" ці не быць. Але калі да 1991 года я, напрыклад, магла публікаваць свае працы толькі ў Польшчы, Вільні, Маскве, то ў 91-м выйшла-такі мая кніга "Сінтаксіс пераходнай руска-беларускай зоны", дзе на грунце падабенства сінтаксічных структураў меркавалася агульнасць беларусаў з балтамі. Наклад "убачыў свет". Кніга не прадавалася ў Беларусі, але была замоўлена асноўнымі бібліятэкамі свету. Гэта ўдача — раней магло быць значна горш.

Сёння ж замоўчваюцца запрашэнні "няўгодных" на міжнародныя семінары і сімпозіумы. Сродкі, што выдзяляюцца на развіццё навукі, размяркоўваюцца "на погляд". Замоўчваюцца вынікі канферэнцый, як гэта адбылося з кангрэсам русістаў у Рэгенсбургу.. Гэта ж можа адбыцца з Міжнародным з'ездам лінгвістаў у Парыжы, куды былі запрошаны ад Беларусі 7 чалавек, зусім не чыноўнікі ад беларускай лінгвістыкі. Дарэчы, на з'ездзе ў Парыжы я даведалася, што многія вядучыя лінгвісты свету — выхадцы з Беларусі. Ёсць нават думка, што Беларусь асаблівы рэгіён, дзе нараджаюцца людзі, якім прызначана ўнесці ўклад у развіццё чалавецтва, нараджаюцца, але потым ад'язджаюць. Як шкода...

**— Святлана Міхайлаўна, я ведаю, што вам паступаюць прапановы на працу за мяжой..**

— Мне сяды-тады не вераць, але я сапраўды не хачу ад'язджаць з Беларусі. Я нарадзілася ў Менску. Чалавек па сапраўднаму арганічны ў той краіне, на мове якой думае. Мова — дух народа. Я ўвайшла ў навуку, развіваючы гэтую формулу, забароненага ў СССР філосафа і лінгвіста Гумбальдта. (Адэпты "чыстай матэрыялістычнай лінгвістыкі з працамі Гумбальдта не знаёмыя, мяне нават злёгку "чокнутай" лічылі). У мове закадавана культура. Калі хочаце менталітэт. Мой. Ваш. Наш. Просты прыклад — слова "свята". У беларусаў "свята", — дзень святы. У рускіх "праздник" — праздный. Розніца? Праграма. Закладзеная на ўзроўні падсвядомасці. Чаму я, якая сама размаўляю на рускай, польскай і беларускай, выступаю за выкараненне трасянкі? Таму, што мова стварае чалавека. Трасянка — пачварная сумесь моваў — не толькі паказчык нізкага культурнага ўзроўню краіны — гэта сістэма фармавання акультурных асобаў з сумяціцай у душах і галовах.

**— Святлана Міхайлаўна, вы — чалавек, які жыве сваёй справай. Магчыма, уплыў мовы на развіццё грамадства, у сілу захопленасці, пераўвялічваецца.**

— Як раз на з'ездзе ў Парыжы абмяркоўвалася значэнне лінгвістыкі. Буйнейшыя навукоўцы свету мяркуюць, што ў XXI стагоддзі лінгвістыка павінна стаць інтэгравальнай дысцыплінай, а лінгвістам можа быць толькі чалавек, які валодае ўсімі сучаснымі ведамі. У Амерыцы ўжо некалькі дзесяткаў гадоў навучанне мовам вядзецца на грунце культурнай пісьменнасці. Гэта нават павысіла вытворчасць працы. Думаю, што нашы беды — не эканоміка, не палітыка, а адсутнасць культуры, добрых лінгвістычных школаў, без якіх ні разумную палітыку, ні пісьменную эканоміку не пабудаваць.

*Маргарыта ПАЛЯЖАЕВА.*
*АиФ.*

